№ 32. Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты:

на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь

выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакції: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрації і экспэдыції:
М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак:

на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі—25 фэніг.; дробные абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці—60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 32 (124). Год II. Вільня, 20 красавіка 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

## Пратэст віленскіх работнікоў.

### 19 красавіка.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: Пры благой пагодзі — слабая баевая чыннасць.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Французская каманда не бачыла нідзе выпаўненьня сваіх пляноў, якіе былі намечэны у знойдзеных намі прыказах. Французскіе войскі нідзе не дайшлі сваей тактычнай, не кажучы ўжо аб стратэгічнай мэці.

У начы на 18.IV французы дайшлі мейсцовай удачы пры Брэ. Пры Шмэн-дэ-Дам і Краон новые вострые атакі ворагоў адбіты с крывавымі стратамі.

Пры Вілль-о-Буа мы ўмацаваліся на задняй лініі акопаў.

Пры Брімон расейскіе войскі, пасланые у Францію, дарамна і з вялікімі стратамі прабавалі штурмаваць.

Пры Обрів, у Шампані, ўчора паабедзі узняліся новые бітвы, каторые трывалі ў начы і сягоньня раніцай узмацаваліся.

**Усходні тэатр:**

Між Прыпяцьцю і Днестрам крапчэў расейскі агонь.

---

БРУССЭЛЬ (В.Т.Б.). 18.IV. Генэрал-губэрнатар Бэльгіі, генэрал-ан-шэф барон ф. Бюссінг сягоньня вечэрам памер, пражыўшы 73 гады.

ШТОКГОЛЬМ. З Апаранды даносяць аб пачатку новых сур'ёзных разрухоў у Пецярбурзі проці тымчасоваго правіцельства. Падарожные затрымліваюцца ў Апарандзе, бо зносіны чыгункай прыпыніліся. За апошніе чатыры дні почта з Расеі зусім не даходзіць.

ПЕЦЯРБУРГ. «Рабочая Газэта» пішэ, што Спаўніцельная Камісія камітэту работнікоў і салдатоў атрымала з Бэссарабіі тэлеграмы, каторые паказваюць, што тамака без ніякіх прашкод вядуць сваю пропаганду рэакцыонеры. Газэта дамагаецца ад правіцельства становучых крокаў, каб палажыць канец рэакцыйнай рабоці ў Бэссарабіі.

ШТОКГОЛЬМ. Быўшаго расейскаго міністра заграніччных спраў, Покровскаго, выбралі за маршалка цэнтральнаго камітэту ваеннай прамышленнасьці.

Селяне Благавешчэнскаго округа на сваім сходзі высказаліся за аддзяленьне цэрквы ад гасударства і за сазыў усерасейскаго селянскаго з'езду.

ГААГА. «Journale» і „Petit Parisien“ пішуць, што агульным французскім наступленьнем камандуе не генэрал Нівэль, а Мішэле. Апрацаваны Нівэльлем і маршалам Гэгам плян ня мог быць выпаўнен с прычыны адступленьня у свой час фэльдмаршалка Гіндэнбурга на Сомме. Перамена Гіндэнбургам фронту задзержала наступленьне на чатыры тыдні.

ВАШЫНГТОН. Ваенная дэлегація палаты дэпутатоў 9 галасамі проці 8 адкінула праект закона аб завядзеньні агульнай ваеннай павіннасьці.

Амэрыканскі габінэт пастанавіў організаваць спэцыяльнае міністэрство дзеля змаганьня с падводнымі лодкамі і асыгнаваў на гэта 5 мільёнаў дольляроў.

Правіцельство Злучэных Штатоў, як пішуць парыжскіе газэты, пастанавіло не рабіць згоды с цяперашнім нямецкім правіцельствам. Амэрыка жадае, каб у Нямеччыне было установлено лібэральнае правіцельство, якое дало бы волю ўсім грамадзянам.

---

## „Рукі вон!“.

Ход ваенных прыпадкоў разрэзаў крывавай мяжой землі колішняго Вялікаго Княства Літоўскаго на дзьве часьці: з гэтаго боку апынулася бл.зка ўся этнографічная Літва і частка Беларусі; с таго—усходні край Літоўскай зямлі і аграмадные беларускіе абшары. Але ад гэткаго прыпадковаго раздзелу ў унутрэнай будові нашай калісьці незалежнай Бацькаўшчыны нічога не змянілося. Як ад вякоў, так і цяпер, гэты суцэльны гаспадарчы організм крэпка спаян у вадно як супольнай мінуўшчынай пражываючых на ім народаў, так і экономічнымі і соцыяльнымі звязямі, аснованымі на зусім незалежных ад волі чэлавечай об'ектыўных варунках (тарговые дарогі, выхад да мора, супольные цэнтры, агульнакраёвые экономічные організаціі, праўные вормы і т. д.). Яго патрэбы і жаданьня, яго палітычные ідэалы ад факту дачэснаго раздзелу не маглі змяніцца і не змяніліся.

Тым болей цьвёрда пратэстуе беларускае грамадзянство проці ўсіх спроб суседняй Польшчы прэдставіць усяму сьвету нашу Бацькаўшчыну, як нейкую бяздушную, безідэйную, без сваей уласнай волі рэч—прадмет «польска-расейскай споркі». І мы ешчэ раз паднімаем свой голас проці новаго акту гвалту дзержаўнай рады Польшчы, які становіць дэклярація яе з дня 6 красавіка 1917 г.

„Тымчасовая дзержаўная рада,—чытаем у дэклярації,—ядыны урадовы польскі орган, с прызнаньнем вітае блеск волі, які асьвяціў цемру няволі народаў, пражываючых у расейскай дзержаве. Са здаволеньнем адзначывае яна і факт прызнаньня новым расейскім урадам незалежнасьці Польшчы,—але разам с тым адзначывае, што адвечная польска-расейская спорка аб абшырные землі, якіе знаходзяцца між этнографічнай Польшчай і Расеей, ды ад вякоў звязаны з доляй Польшчы, не развязана адозвай расейскаго ураду. Развязкі гэтай споркі мы ня можэмо аддаць на аднастароннюю рэзолюцію расейскаго установучаго сэйму. Доля гэтых зямель павінна быць развязана ў мысль дзержаўных інтэрэсоў незалежнай Польшчы, ушанаваўшы волю народаў, пражываючых на тых землях“.

Наш Край, наша Бацькаўшчына ніколі да Польшчы не прыналежала і яе ўласнасьці не станавіла: яна многа вякоў таму назад злучылася с Польшчай у адну супольную дзержаву з добрай волі і на роўных правох,—як вольны з вольным, роўны з роўным. Калі цяпер увесь сьвет прызнаў правы на незалежны быт Польшчы, дык такіеж правы мае і наш Край. Звязь, якая злучала нас калісь с Польшчай, знішчэна, — а калі-б яе і ня знішчыло жыцьцё, дык усё роўна прабудзіўшыеся да сьвядомаго грамадзкаго жыцьця народные массы не маглі-бы прыстаць на тое, што некалі зрабіло нашае панство і шляхта, трымаўшая ў цяжкай няволі наш народ і не даваўшая яму голасу. І калі цяпер Польшча хочэ падчыніць нас сваім „дзержаўным інтэрэсам“, забыўшыся нават аб старых шляхоцкіх умовах,—дык мы цьвёрда і ясна заяўляем: ня хочэмо служыць за парабкоў у палякоў! ня хочэмо дзержаўнай паншчыны у шляхоцкай Польшчы!

Дзержаўная рада Польшчы лічыць магчымым развязаць долю нашай зямлі на моцы угоды між Польскай монархіей і Расейскай рэспублікай. Яна гэтак не прызнае за нашым Краем права самому падаць свой голас аб сабе, права на незалежны быт. Але мы пераконаны, што ніхто не прыстанець на падобнае жаданьне захвату чужой зямлі, і ня ў меру разласаваўшымся палякам скажуць вострае і важкае слово:

— „Рукі вон!“

---

## Пратэст работнікоў.

Дзеля таго, каб паказаць, як да захватных пляноў Польшчы адносяцца віленскіе работнікі (беларусы, літвіны і палякі), злучэные у соцыял-дэмократычнай партыі Літвы, — мы друкуем тут пераклад адозвы Віленскаго Камітэту гэтай партыі, выданай у польскай мові:

*Працавітая бедната усіх Краёў, злучайся!*

**Соцыял-Дэмократычная Партыя Літвы.**

**Таварышы і Грамадзяне!**

Калі—пасьля гадоў доўгай няволі і уціску—на фоне шалеючай вайны і нялічэных бед—пачалі будзіцца ў нашым Краю новые надзеі і жаданьня, калі сьвядомасць і пачуцьцё сваіх правоў, дасьпеўшы ў радах організованаго пролетарыату, абнімае ўсё шырэйшые кругі і будзіць жаданьне вызваленьня Краю ў народных і мешчанскіх массах, калі, ўрэшці, кліч да незалежнасьці Літвы разам з окупованай Беларусьсю, напісаны на работніцкім штандары, раздаецца радаснай весткай па нашай зямлі і стаўся ў цяперашні мо-

мэнт цэнтрам і мэтай дамаганьнёў безмала ўсяго Краю,—у некаторых кругах польскага грамадзянства паявілася дэкларацыя з адрэсам да дзяржаўнай рады, выразна жадаючы далучэньня нашага Краю да Польшчы.

Далучэньне — гэта значыць: праўна-дзяржаўнае падчыненьне, гэта прысуд, каб Край наш быў толькі правінцыей ці станавіў пару губэрній творэнай сягоньня Польшчы, гэта аддача на міласьць ці няміласьць польскай гаспадаркі, фактычна шляхоцка-буржуазыйнай; і вось да гэтаго кіруюцца гэныя кругі, маючы сьмеласьць спадзевацца, што падобнае жаданьне дойдзе ўдачы ў самым нашым грамадзянстве.

Для сучаснаго эўропэйца, незнаёмаго з нашымі варункамі, гэта была-бы справа, непадобная да веры...

І праўда: ціж у часі найвялікшаго напружэньня руху да незалежнасьці, ў часі нялюдзкай меры і поўных ахвярнасьці патуг да здабыцьця волі розных краёў, — ці-ж у гэтым часі грамадзяне Літвы і Беларусі важыліся-бы зрабіць сьмяротны ўдар Бацькаўшчыне, злажыць у магілу імя і незалежнасць яе і мець сьмеласць за далакопа для правоў сваіх прызываць польскі народ, каторы перажыў усе мукі пад чужацкім ярмом, пазнаў цану волі і ўмеў ваеваць за яе дзеля сябе і другіх?!

Якіж зачарованы круг дурноты, якое страшэннае гістарычнае недаразуменьне... Як завуцца і скуль родам тые людзі, каторые ў часі надзей сьпешаюцца пакараніць родны край? Ці-ж яны — не сапраўдные сыны яго, ня дзеці аднэй маткі-пяэтункі — Бацькаўшчыны?

Скуль прыходзяць павадыры, каторые з вясельнай радасьцю б'юць у званы на забойства намечэнай ахвяры?

Імя першых, каторые гатовы даць згоду сваю на страшэннае ліхадзейство проці нашаго Краю,— несьвядомасць. Іх вінаваціць нельга, бо не ведаюць, што робяць, бо пойдуць за намі, як ім вочы расчыняцца.

Імя другіх — ці або здрада, безмяжовая наіўнасць, аснованая на нацыяналізьме, або нягодная хітрасць, каторая будуе пагібельные для нашаго краю пляны на несьвядомасьці і безраднасьці.

Аднак, каму патрэбна гэткая наша крыўда, хто вінавайца гэтаго пакушэньня на нашы правы?

Аб тым, што наш край стаўся ахвярай расейскага захвату, аб гэтым безпраўі ведаем мы ўсе, ведае і польскі народ, каторы дзяліў з намі ліхую долю.

Але каму ў Польшчы, каму ў нашым краю ёсць карысць патаптаць нашы правы? Хіба не работніцкай грамадзе, с каторай нас еднаюць ідэалы брацтва, хіба не польскаму народу, каторы не апаганіў свайго імі захватамі.

На шчасьце, факты гавораць лішне празрыста... Новаго воўка пазнаем па старой скуры... Буржуазія, прэдстаўнікі капіталу ў Польшчы і іх паплечнікі ў нашым краю—гэта і ёсць глаўная пружына ўсяе афэры.

Вось, хто, ледзьве падніма ючыся са сьмяротнай пасьцелі, ешчэ на кавелах, не пасьпеўшы парваць сваіх ланцугоў, у імя сваей бытцым-то «гісторычнай міссіі» пачынае гісторычны паход, першы прызыў да катораго мы пачулі с трыбуны дзержаўнай рады Польшчы.

Вось, хто, прыкрываючы свой уласны інтэрэс пазычэнымі ад царавых наймітоў славамі, хочэ абярнуць наш край толькі ў рынак дзеля збыту сваіх тавароў, а работніцкіе масы—ў рабочую скаціну у крэпкай збруі.

Гэта пасланцы буржуазіі прыходзяць да нас муціць нашу згоду, падкапываць грамадзкую сьвядомасць, множыць число рабоў і гэтак прыгатаўляць у блізкім да Польшчы суседзтві грунт для кожнаго наездчыка.

Замест будзіць сілы краю і абапёртую на сьвядомасьці сваіх правоў моц, замест шукаць шчырай асновы дзеля ўзаемнаго збліжэньня Літвы і Польшчы, як роўных адна аднэй, вольных і моцных, яны атручываюць душы грамадзян, кідаюць між менш сьвядомымі зернята разладу і нацыональнай ненавісьці, ды благую услугу робяць самай ідэі збліжэньня гэтых краёў.

Таварышы і грамадзяне! Трэба ўжо палажыць канец гэтаму! Гэта—здрадлівая работа тых, хто высысае з нас усе сокі, работа сьвядомых ці несьвядомых ворагоў рабочаго народу!

Дык клікнем урашці з усей сілы, што ўсе мы без ніякай рожніцы сыны гэтаго краю, што долю яго трэба акружыць братняй апекай, бо ён належыць да ўсяго грамадзянства, і толькі воля апошняго, воля выразнай большасьці мае право пастанавіць аб яго будучыне, што толькі правамоцные прэдстаўнікі краю могуць і павінны гаварыць за яго.

Ўсе паадзінокіе дамаганьня і настраеньня павінны знайсьці для сябе выхад тут, у нашым краю, і тут, змагаючыся між сабой у законнай і чэснай барацьбе, служыць дзеля аднэй справы вольнай і дэмократычнай будучыны нашаго краю.

Даволі выцягіваньня сварак за межы краю, даволі ўзаемных падкопаў! Да еднасьці, таварышы і грамадзяне, і да сьветла! Супольнымі сіламі пры блеску работніцкаго сьветача мы лягчэй знойдзем дарогу з вастрожнай цемры да сьветлай пуціны вольнаго і годнаго нас жыцьця.

Ніхай жыве незалежная і дэмократычная Літва!*)

Ніхай жыве работніцкая справа!

*Віленскі Камітэт Соцыал-дэмократ. партыі Літвы.*

# У Вільні і ваколіцах.

× **У Беларускім Клюбе** (Віленская 28) у суботу, 21 красавіка, звычайная вечарынка.

У нядзелю, 22 красавіка, — „Дзед і Баба", усцэнізованы абраз са сьпевамі. Пасьля—танцы.

× **Малады беларус**, каторы добра знае беларускую мову, хоцьбы толькі народную гутарку,—незалежне ад таго, ці гэта інтэлігент, ці рамесьнік або работнік, патрэбен у Вроцлав. Калі гэта абітур'ент, яму будзе дадзена магчымасць жыць і пастуліць у унівэрсытэт; калі чэлавек наагул фаховы, дык атрымае адпаведную работу, каторая абазпечыць яму магчымасць жыць. Канечне патрэбно толькі добрае знаёмство з беларускай мовай.

× **Сабраньне кватэрантоў.** У аўторак, 24 красавіка, а $6^1/_2$ гадз. веч. адбудзецца сабраньне кватэрантоў у гасподзі Саюза Кватэрантоў, Віленская 20, 3.

На сабраньні будзе здадзена справа аб рабоці Саюза і будуць разбірацца пытаньня, звязаные з інтэрэсамі ўсіх кватэрантоў места Вільні. Апрыч таго адбудуцца выбары новаго ураду і рэвізыйнай камісіі.

Усіх, хто хочэ быць на заседаньні, просяць прыхадзіць у назначэную гадзіну.

× **Народные страўні.** Ад 18 красавіка ў народных страўнях на кожную порцію зупы даюць 90 гр. круп; баруць за гэта 10 фен.

Хто атрымлівае карты на хлеб дарма, той плоціць за порцію зупы 6 фен.

× **Вываз апошніх уцекачоў** адбудзецца гэтымі днямі. Пасьля гэтаго камітэты ня будуць даваць ніякай помачы тым з іх, хто астаўся ў Вільні.

× **Патрэбны работнікі.** Дзеля ачысткі дарог у ваколіцах Вільні патрэбны каля 200 работнікоў за плату ад 2.50 да 3 марак у дзень. Запісывацца трэба ў Біржы Працы, Завальная 5.

× **Прышчэпка осны.** Жыхары дамоў пры вуліцах М. Пагулянцы, Губэрнатарскай, Падвальнай, сьв. Мікалая, Жмудзкай, Ашмянскай, Шпітальнай, Шавельскай, Дзісенскай, Рудніцкай, М.-Стэфанскай, Вэнгерскай, Шырокай і Завальнай і пры завулках Кашовым, Кайданскім, Лідзкім і Францішканскім прызываюцца явіцца дзеля прышчэпкі оспы ў 6. местовы лазарэт, Острабрамская 5, ад 12 да 2 гадз.

× **Выдача пашпартоў Обэр Ост.** Асобы, каторые страцілі пашпарты Обэр Ост, або ў каго пашпарт укралі, павінны явіцца на новые ў д. № 4 пры 2-ой Партовай:

№№ 1—30.000 — у суботу, 21 красавіка,

№№ 30.001—60.000 — у нядз., 23 красавіка,

№№ 60.001—90.000 — у аўторак, 24 красавіка,

№№ 90.001—120.000 — у сераду, 25 красавіка.

Трэба с сабою мець заверэньне тожсамасьці асобы.

× **Павялічэньне падатку с тытуну.** Падатак с тытуну павялічываецца да 50 працэнтоў цаны ў дэталічнай прадажы. Плаціць яго будуць ужо фабрыкі пры куплі. Новые цэны ў дробным гандлі назначэны ўжо цяпер: махорка — 6.40, 7.20 і 8 м. за рас. фунт, табака і «жылка» — 4.40, 5.20 і 6.40 м. за рас. фунт. Прадаваць гэтые сарты тытуну можна толькі пачкамі па $^1/_8$ і $^1/_4$ фунта з выразным абазначэньнем цаны і вагі.

× **Скорая помач** ад 9 да 15 красавіка дадзена ў 94 прыпадках. Карэтка скорай помачы выежджала 63 разы.

× **Дзе цяпер жнуць?** На востраві Кіпры, ў палудзеннай часьці Малай Азіі і на Кубе.

*) Судзячы паводлуг вышэйпісаных слоў гэтай адозвы, аўтары яе пад словам „Лі-тва" разумеюць не зямлю, на якой жывуць літвіны, а ўвесь наш край, значыць Літву і Беларусь. (Рэд.).

# Прысяга над крывавымі разорамі.

Быў цёплы васеньні дзень. Нівы ціха адпачывалі пасьля летняе працы. Цёмны лес шэптаўся у глыбокай задумі. Буслы тужліва ляцелі на вырай.

Гэтаго дня маркотны і згорблены пад цяжкаю хмараю невясёлых дум ледзьве-ледзьве поўз стары Мацей у поле. «Галава баліць,—рук не зняць»,—бурчэў ён, пацягіваючыся. «Дзяцей дагадаваўся, а адпачыць некалі і незавім». — Так ён сам сабе жаліўся.

Праўда, ў Мацея былі тры сыны: аднаго ўзялі ў маскалі, другі паехаў да Пецярбурга шукаць хлеба, трэйці пайшоў за парабка да двара, а бедны Мацей з жонкаю і дзьвема малодшымі дзеўчаткамі астаўся ў хаці на сваей гаспадарцы.

Бедната, адзіноцтва, сілы ўжо ня тые,— а рабі і рабі, працуй без канца... Мардасовічу за лён, Бізуноўскаму за пашу, а там і за бульбу плужы і плужы што-дзень на адработках, так што сваё хоць і вузка, і лыда, але і то нехват часу ў пару засеяць.

Ось і цяпер суседзі ўжо даўно пасеялі і пабаразьнілі, а Мацей толькі першы дзень выйшоў на сваё і то быў хворы.

Аднак, перэмагаючы сябе, насыпаў жыта ў фартух, наплеваў у жменю, чэрпануў зернят і са славамі «Радзі, Божэ!» сыпануў зерне на чорную глебу.

Зерняты замігацелі на ральлі. А Мацей стаяў с пасалавеўшымі вачамі і шэптаў: «Не магу, — надта-ж галава баліць і сон морыць...» І, не укладаючыся ані пасьцілаючыся, ён як стаяў, так і лёг, так і заснуў...

Спаў, як пласт, у папярок загону з раскінутымі рукамі. Твар быў бледны, вусты чорны ад смагі; дыхаў ён часта і з якімсь хрыпам. Здалёк выглядаў на чэлавека, катораго вось-вось раскрыжавалі і прыбілі да зямлі, і так ён паволі канае...

Мацей спаў і сьніў. Сьніў ён, што сабралася моц народу на яго ніве: былі там маладые і старые, і мужчыны, і кабеты, і дзеці—у рожных апратках, і ўсе крычалі: «...Вузка! Цесна! Мала!..» А Мацею здавалося, што і ён сам стаіць пасярод гэтаго народу, і што ўсе чэкаюць, што і ён сам, Мацей, скажэць, і што вось-вось к яго сэрцу падходзіць нейкі жаль, і што ён так сама пачынае крычаць: «вузка! цесна! мала!»

Аж, здаецца, выбегае сусед Астап, заціснуўшы кулакі, і крычыць ешчэ мацней за Мацея:

— «А скуль узяць?! Скуль дастаць?! Кажы: скуль?...»

Тады захістаўся народ і зароў:

— «Глядзіце: во—прасторы! Во нівы, лясы, паля! Усё гэта—ваша!..»

А Астап:

— «Лжэце! Няпраўда! Не дадуць: то казённае, то дворнае,—ні я, ні вы не маем права! Не дадуць, паб'юць!..»

Вось далей здаецца Мацею, што с цьмы народу выходзяць яго тры сыны: парабак, дворны, салдат і работнік пецярбурскі — і становяцца на калены і прысягаюць громка, ясна, паволі:

— «Мы дамо! Мы сіла—мы право!»

Мацей абліваецца потам, сэрцэ ў яго б'ецца... І здаецца яму, што ўсё гэта спавіў туман: толькі разоры стаяць поўны крыві, а над імі вісяць тры скрыжаваные далоні... І раздаецца ціхі, ясны голас:

— «Мы сіла! Мы право!»

**Мацей Крапіўка.**

Вільня 1906 г. («Наша Доля»).

пір да Бэтінві, на фронці 50 кілём. шырокім, пачалася вялікімі сіламі пяхоты атака дзеля прарыву. Ўчора вялікая спроба французоў прарвацца не ўдалася. Крывавые страты ворагоў—надта цяжкіе. У нашых руках апынуліся 2100 палонных. Нашы войскі ждуць спадзеваных цяжкіх бітв с поўнай верай.

18.IV. Заходні тэатр.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* На Эн французы, аслабеўшы ад ранейшых страт, прыпынілі свае атакі. Вячорные спробы штурмаваць на хрыбце Больи, на вяршынах Краон, у лесі ля Віль-о-Буа і на каналі Эн-Марн адбіты агнём або штыкамі. Пачаўшиеся ад раніцы штурмы ў Шампані на шырыні 20 кілёмэтроў, меўшые на мэці прарваць наш фронт, задзержаны ў нашых пазыціях між лініямі. Контратакай французкіе «колеровые» дывізіі пры Обрів былі адкінуты, утраціўшы 500 палонных і некольні кулемётаў.

У бітвах 16 красавіка ворагі утрацілі 26 панцырных самаходаў, разбітых нашым агнём, і 18 самалётаў. Чысло палонных больш за 3.000.

Усходні тэатр:

Без ніякіх перамен.

*Македонскі фронт:* На заходзі ад Манастыра мы выкінулі французоў з іх пазыцій пры Чырвонай Сьцяне, ды ўзялі 200 палонных і некольні кулемётаў.

### Аустрыяцкіе апавешчэньня.

ВЕНА. 16. IV. Італьянскі тэатр: У ваколіцах Ціма ді Боджэ ўзяты ў палон 7 афіцэроў і 124 салдаты.

ВЕНА. 18.IV. На ваенных тэатрах, наагул, без перамен.

Нашы торпэдные лодкі ў паўночнай часьці Адрыатыцкаго мора злавілі тры італьянскіе самалёты.

### КАЛЯ ВАЙНЫ.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). У Сяродземным моры ізноў затоплены 6 параходаў і 4 парусные караблі ёмкасьцю разам 40.782 тонны.

БЭРЛІН. (В. Т. Б.). Лятун Бальдамус пагіб сьмерцю героя ў бітве са сваім 19-тым ворагам.

БЭРЛІН. (В Т.Б.). Тутэйшы бразылійскі пасол аддаў міністру заграничных спраў ноту, аб'яўляючы аб разрыве дыплёматычных зносін з Нямеччынай і жадаючы звароту пашпартоў.



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтво «Гоман». Редактар В. Ластоўскі.